# Голас Радзімы

№ 51 (2141)
21 снежня 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



## З МУЗЫЧНАЙ ДЫНАСТЫІ

Лёс Ігара АЛОЎНІКАВА, можна сказаць, быў прадвызначаны з маленства. Дом іх поўніўся музыкай. Бацька, кампазітар Уладзімір Алоўнікаў, штоправіцы пачынаў работу за піяніна. Хлопчык слухаў, як іграе бацька, як сачыняе песні, араторыі, сімфоніі. Як развучвае свае партыі маці, спявачка класічнага жанру.

У шасцігадовым узросце хлопчык сеў за інструмент, пачаўшы пад кіраўніцтвам бацькі авалодваць музычнай граматай. А ў 1972 годзе, яшчэ вучнем музычнай школы пры Белдзяржкансерваторыі, ён едзе на міжнародны конкурс імя Б. Сметаны ў Чэхаславакію, адкуль прывозіць другую прэмію.

З таго часу прайшло 17 гадоў. Як выканаўца, саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі, Ігар Алоўнікаў аб'ездзіў з канцэртамі краіну, выступаў перад слухачамі Іспаніі і Югаславіі. І не толькі як піяніст, але і як арганіст. Так, так. Арган — даўняе захапленне Ігара. Яшчэ ў час вучобы ў музычнай школе ён захапіўся канцэртамі Алега Янчанкі. А пазней займаўся па класу аргана ў маскоўскай кансерваторыі ў прафесара Л. Ройзмана. Хаця асноўным сваім інструментам Ігар усё ж лічыць фартэпіяна, тым не менш, калі з'яўляецца магчымасць, ён іграе ці на вялікім аргане ў філармоніі, ці на меншым — у былым касцёле Святога Роха, зале камернай музыкі.

Ігар Алоўнікаў сам яшчэ даволі малады чалавек — яму 35, але тым не менш мае нямала вучняў. Ён — загадчык кафедры фартэпіяна ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. А ўвогуле выкладае там студэнтам амаль дзесяць гадоў.

Дарэчы, займаецца сам і кампазіцыяй, але сціпла лічыць, што гэтыя вопыты — для хатняга музіцыравання. Ён майстар транскрыпцыі, аранжыроўкі.

Фота М. ЖЫЛІНСКАГА.





Гадзіннікі з маркай «Прамень» карыстаюцца апошнім часам немалым попытам за мяжой. І прычынай гэтаму не толькі іх надзейнасць і дакладнасць ходу, але і своеасаблівае афармленне, распрацаванае мінскімі гадзіншчыкамі. На некаторых цыферблатах, напрыклад, карта Савецкага Саюза, а на ёй — слова «перабудова». Пад шклом іншых — вежа Крамля, флагі СССР і ЗША. (На жаль, няма беларускай сімволікі, а завод жа — мінскі). Па-новаму афармленыя вырабы прыцягваюць увагу пакупнікоў на азіяцкім, еўрапейскім, амерыканскім кантынентах. У наступным годзе мінчане паставяць 5 тысяч гадзіннікаў у Венгрыю і 10 тысяч у Бельгію. ЗША захацелі купіць іх мільён. Мінскія гадзіннікі карыстаюцца попытам у пакупнікоў Францыі, Вялікабрытаніі, Швейцарыі, ФРГ, Кубы, Ганконга, Сінгапура.

**НА ЗДЫМКАХ:** ідзе праверка гатовай прадукцыі на кантрольна-выпрабавальнай станцыі; гадзіннікі «Прамень» з новай сімволікай.

Фота У. ВІТЧАНКІ.

## БЕЛАРУСЬ: ПЕРШЫ РЭГІЁН НА САМАФІНАНСАВАННІ?

# ЧАСУ НА ЧАКАННЕ НЕ ЗАСТАЛОСЯ

**Адзін з найбольш развітых індустрыяльных рэгіёнаў краіны—Беларуская ССР з 1990 года рашэннем Савецкага ўрада пераводзіцца на новыя ўмовы гаспадарання, у аснове якіх ляжаць прынцыпы рэгіянальнага самакіравання і самафінансавання. Адпаведная пастанова прынята і Вярхоўным Саветам рэспублікі.**

Навіна гэта сустрэта ў рэспубліцы неадназначна. Многіх здзівіла паспешнасць, з якой прынята надзвычай важнае для жыцця рэспублікі рашэнне. І хаця аўтарамі праекта выступалі беларускія вучоныя, пастанова, насуперак духу часу, прынята без шырокага абмеркавання. Да таго ж «спушчана» саюзным урадам у вельмі ўрэзаным выглядзе. Тым не менш, гэта — першы практычны крок па ажыццяўленню ідэі дэцэнтралізацыі савецкай эканомікі, якую вылучаюць сёння многія вядучыя эканамісты краіны, а таксама прадстаўнікі альтэрнатыўных палітычных плыняў.

Што ж уяўляе сабой беларуская канцэпцыя самакіравання і самафінансавання і якія спадзяванні звязваюць з ёю ў рэспубліцы? Пра гэта гутарка з адным з аўтараў першапачатковага варыянта праекта, намеснікам дырэктара Інстытута эканомікі Акадэміі навук Беларускай ССР Міхаілам НІКІЦЕНКАМ.

— Перш за ўсё, варта ўдакладніць, што новыя ўмовы гаспадарання, пра якія ідзе размова, —не канчатковы рэцэпт перабудовы нашага эканамічнага механізма, — гаворыць мой субяседнік. — У пастанове яны названы «першачарговымі мерамі», «эксперыментам», які, безумоўна, атрымае далейшае развіццё.

— Аднак аб падобных эксперыментах мы чуем, прынамсі, ужо гадоў пяць. Беларусь даўно стала своеасаблівым палігонам па выпрабаванню новых кіраўніцкіх ідэй. Але далёка не ўсе з іх прыжыліся.

— Да гэтага часу гутарка ішла аб укараненні толькі асобных элементаў самастойнасці. А не прыжываліся яны з-за таго, што ў рэгіёне, як і ў краіне ў цэлым, не было неабходных перадумоў для пераходу на самастойнае гаспадаранне. «Урэзаны» гасразлік як на ўзроўні прадпрыемстваў, так і ў галінах заставаўся чужародным трансплантантам у арганізме адміністрацыйна-каманднай сістэмы. Таму ён быў асуджаны на адчужэнне.

— Якія ж гэтыя перадумовы і ці з'явіліся яны сёння?

— Пад самафінансаваннем мы разумеем магчымасць для рэгіёна самому зарабляць сродкі і жыць на іх, незалежна ад цэнтральнага бюджэту, які да гэтага часу жорстка рэгламентаваў абсалютна ўсе віды гаспадарчай дзейнасці і рэалізацыю сацыяльных праграм на тэрыторыі. Мэта такога манеўру — узмацненне сацыяльнай арыентацыі эканомікі, іншымі словамі — выслабаніць прастору для дзелавой ініцыятывы, ажывіць тым самым гаспадарчую дзейнасць, а заробленыя сродкі згодна са сваім меркаваннем накіроўваць на сацыяльныя праграмы рэгіёна. Зразумела, пры гэтым захоўваюцца пэўныя выплаты ў агульнадзяржаўны бюджэт. У ідэальным варыянце для ажыццяўлення гэтай схемы патрэбны такія ўмовы, як поўная самастойнасць гаспадарчых звенняў (прадпрыемстваў), калі адсутнічае ўсякае цэнтралізаванае планаванне, неабходна наяўнасць рынку сродкаў вытворчасці, дзе прадпрыемствы па дагаворных цэнах могуць самі купляць і прадаваць абсталяванне і матэрыялы, а таксама рынкаў рабочай сілы і пляцовак для будаўніцтва.

— Нічога падобнага ў савецкай эканоміцы пакуль няма. Выходзіць, што новая беларуская канцэпцыя самастойнасці зноў нагадвае будынак без фундаменту?

— Рана ці позна ўсё гэта з'явіцца. Але і ў цяперашніх умовах удалося вырашыць шэраг прынцыпова новых задач. Адна з генеральных мэт канцэпцыі — перамясціць працэс фарміравання бюджэту і выкарыстання бюджэтных сродкаў з верхняга ўзроўню на ўзровень рэгіёна і нават прадпрыемства. Як вядома, дзяржаўны бюджэт да гэтага часу фарміраваўся «наверсе», пасля чаго рэспублікам выдзялялі імі ж заробленыя сродкі на развіццё вытворчасці і на сацыяльныя патрэбы. Гэта цалкам заганная сістэма. Бюджэт фарміраваўся настолькі далёка ад месцаў, што практычна немагчыма было пракантраляваць, наколькі рэальныя запатрабаванні «знізу». З другога боку, з Масквы цяжка прадугледзець усе спецыфічныя патрэбы тэрыторыі. Цэнтралізаванае фарміраванне бюджэту нараджала настроі ўтрыманства. Грошы, матэрыяльныя фонды прасілі ўсе, ды яшчэ «на запас» — фактычна ж усё гэта было абязлічаным «дармовым». Фінансавы поспех тэрыторый не залежаў ад таго, як эфектыўна там працуюць. Сам жа бюджэт у выніку павялічваўся да неверагодных памераў, адпаведна рос яго дэфіцыт, які складае на сёння 120 мільярдаў рублёў.

Самакіраванне і самафінансаванне прапаноўвае прынцыпова новую схему. Яна размяжоўвае функцыі Саветаў і прадпрыемстваў і поўнасцю вызваляе Саветы ад цяжару фінансавання вытворчасці. Што гэта значыць? З аднаго боку, прадпрыемствы становяцца незалежнымі. Яны самі плануюць сваю дзейнасць, вырашаюць усе праблемы забеспячэння рэсурсамі і збыту прадукцыі, зарабляюць сродкі на развіццё. З другога, Саветы таксама самі зарабляюць сродкі для вырашэння сацыяльных праграм сваёй тэрыторыі. Грошы гэтыя яны атрымліваюць, заключаючы з прадпрыемствамі на сваёй тэрыторыі дагаворы аб рэсурсакарыстанні. Саветы атрымліваюць адлічэнні за зямлю, працоўныя рэсурсы, за забеспячэнне інфраструктурай і мясцовымі рэсурсамі — дарогамі, сувяззю, транспартам, вадой, энергіяй і г. д. Акрамя таго, Саветы паўнамоцныя ўстанаўліваць мясцовыя падаткі для вырашэння той ці іншай сацыяльнай праграмы. Такім чынам, Савет упершыню атрымлівае рэальную магчымасць рэгулявання гаспадарчай дзейнасці на сваёй тэрыторыі. А гэта ж не што іншае, як ажыццяўленне палітычнага лозунга «ўся ўлада Саветам».

Мы адмаўляемся ад жорсткага цэнтралізаванага планавання. Планы зацвярджае само прадпрыемства. На ўзроўні Саветаў яны толькі зводзяцца для таго, каб атрымаць уяўленне пра агульныя тэндэнцыі развіцця. Яшчэ адна істотная навінка, што прапаноўваецца беларускай канцэпцыяй гасразліку, — плюралізм форм уласнасці. Мы заяўляем, што прадпрыемства любой формы ўласнасці павінна мець права на існаванне і развіццё, сваёй работай даказваючы перавагу выбранай формы дзейнасці. На жаль, зацверджаны варыянт канцэпцыі пакуль не праводзіць гэтую ідэю да канца. Спасылаючыся на «аб'ектыўныя прычыны», нам навязалі ў многім палавінчатыя рашэнні.

— Такім чынам, дзяржаве, у прыватнасці, цэнтральным яе органам у новай канцэпцыі адведзена другарадная роля ў кіраванні гаспадарчым развіццём.

— Хутчэй, у дзяржавы ў асобе Саветаў развязваюцца рукі для вырашэння сацыяльных праблем. Я ўжо гаварыў, што Саветы павінны быць вызвалены ад бяссэнсавай задачы кіравання эканомікай. Гэта надасць, нарэшце, нашай эканоміцы «чалавечы твар». Дзяржава са свайго цэнтралізаванага бюджэту, які атрымліваецца з падаткаў ад прадпрыемстваў, фінансуе толькі асобныя сферы дзейнасці. Напрыклад, абаронныя галіны, важнейшыя навукова-тэхнічныя і экалагічныя праграмы, фундаментальную навуку, стымулюе развіццё новых тэрыторый. Гэта агульнапрынятая сусветная практыка.

— Вы ні слова не сказалі пра тое, каму будуць належаць прадпрыемствы, размешчаныя на тэрыторыі рэспублікі: мясцовым органам ці па-ранейшаму будуць дзяліцца на «свае» і падпарадкаваныя Маскве. Таму што асабліва гэтае пытанне найбольш востра дыскутуецца, напрыклад, у рэспубліках Прыбалтыкі.

— Мой асабісты пункт гледжання: ведамасная ці нацыянальная падпарадкаванасць прадпрыемстваў не павінна адыгрываць ніякай ролі. У гэтым пераконвае сусветны вопыт арганізацыі эканомікі. Напрыклад, у ЗША больш за палавіну прамысловага патэнцыялу не належыць амерыканцам. Гэта японскія, нямецкія, італьянскія і іншыя фірмы. Наадварот, падобная інтэграцыя нясе толькі выгаду. Справа ў іншым: ці маюць права мясцовыя органы ўлады ўплываць на дзейнасць гэтых прадпрыемстваў і атрымліваць ад іх усе неабходныя плацяжы. На жаль, у нас было па-іншаму. У Беларусі 288 прадпрыемстваў саюзнага падпарадкавання. На іх працуюць 58 працэнтаў усіх занятых у прамысловасці. Але іх адлічэнні ў рэспубліканскі бюджэт складалі толькі 8,5 працэнта. Пры такім становішчы, як ні старайся, больш бальніц, прадпрыемстваў быту ці школ для рэспублікі не атрымаеш.

— Тым не менш, стан спраў у Беларусі лепшы, чым у іншых рэгіёнах краіны.

— Можна лічыць і так. Напрыклад, доля спажываемага нацыянальнага даходу ў рэспубліцы на 2,4 мільярда рублёў меншая за даход. Значыць, мы кормім не толькі сябе, але і ўносім істотны ўклад у агульнадзяржаўную скарбонку. Другі важнейшы паказчык: на рубель заработнай платы ў БССР выпускаюць на 2,2 рубля тавараў народнага спажывання. Гэта гаворыць аб тым, што эканоміка рэспублікі адыгрывае антыінфляцыйную ролю ў краіне. Але мы не жывём у адрыве ад астатняй тэрыторыі краіны. Наша эканоміка адкрытая — рэспубліка абменьвае больш за 60 працэнтаў сваёй прадукцыі, гэта значыць увозіць і вывозіць. Таму мы вельмі залежым ад стану спраў у іншых рэгіёнах краіны. Цэнтральнымі органамі на нас «перакладваецца» таксама пагашэнне часткі дэфіцыту дзяржаўнага бюджэту. На практыцы гэта азначае згортванне нацыянальных праграм па вырашэнню сацыяльных задач. Ды і рады пакупнік не абаронены ад агульнай незбалансаванасці ўнутранага рынку. Прыкладна кожны трэці рубель, які атаварваецца ў магазінах рэспублікі, прывезены з іншых рэгіёнаў. Не дзіўна, што прылаўкі нашы такія ж пустыя, як і ўсюды ў краіне.

— Новая канцэпцыя абараняе рэспубліку ад гэтых працэсаў?

— Мы атрымліваем пад сваю юрысдыкцыю палавіну ўсяго прамысловага патэнцыялу рэспублікі. Гэта яшчэ паўмера. Але, паўтараю, падначаленасць не адыгрывала б ролі, калі б Саветы мелі тыя ж правы ўплываць на дзейнасць прадпрыемстваў, падпарадкаваных цэнтру, як на тыя, што належаць рэспубліцы. На жаль, гэтага нам не дазволілі. Саюзныя прадпрыемствы ўносяць у бюджэт рэспублікі толькі 20 працэнтаў плацяжоў ад прыбытку. Відаць, апарату вельмі не хочацца аддаваць уладу, пабудаваную на размеркаванні даброт і вынікаў нашай працы, хаця ясна, што такая сістэма тармозіць наша агульнае развіццё.

Другі істотны недахоп беларускай канцэпцыі ў цяперашнім варыянце — захаванне цэнтралізаванага размеркавання падатку з абароту, якім абкладаецца, напрыклад, прадукцыя прадпрыемстваў, што выпускаюць тавары масавага попыту, скажам, лёгкай прамысловасці. Цэнтр па-ранейшаму забірае гэты падатак, каб потым нейкую частку яго вярнуць рэспубліцы. Прычым большасць з гэтых сродкаў атрымліваюць рэспублікі і рэгіёны, дзе эканамічныя паказчыкі горшыя. Такая сістэма не толькі не стымулюе эфектыўнасць эканомікі, але, наадварот, робіць развіццё гэтых галін нявыгаднымі для рэгіёна.

У выніку такіх мер, накіраваных на захаванне існуючай адміністрацыйнай, а дакладней — размеркавальнай сістэмы, тэрыторыя атрымала пакуль магчымасць на справе фарміраваць толькі 40 працэнтаў свайго бюджэту. Мяркуйце самі, ці гасразлік гэта?

— Але ў самым пачатку мы агаварыліся, што пастанова, пра якую ідзе гутарка, толькі эксперымент..

— Так. Хочацца верыць, што народныя дэпутаты ў рэшце рэшт папраўяць няўступчывых апаратчыкаў. Часу на чаканне ў нас не засталося.

**В. УЛАДЗІМІРАЎ.**

№ 51 (2141), 21 снежня 1989 г.

# ЛЮДЗІ ДРУГОГА СОРТУ

Паважаная рэдакцыя газеты «Голас Радзімы»!

Мы з вамі ўжо завочна знаёмыя, таму што я іншы раз у пісьмах выказваю свае думкі па матэрыялах у газеце, якія асабліва зацікавілі мяне. З задавальненнем чытаю і вашы брашуры. Адна з іх і паслужыла прычынай для гэтага пісьма. Я маю на ўвазе «Вераснёўскі світанак», якая прысвечана знамянальнай падзеі ў жыцці нашага беларускага народа — уз'яднаню заходняй і ўсходняй частак Беларусі. Я поўнасцю згодны з аўтарам гэтай брашуры, які прымусіў мяне ўспомніць пра наша жыццё пры ўладзе панскай Польшчы.

Хачу апісаць вам два эпізоды, якія добра паказваюць, як было. Абодва адбыліся ў 1920 годзе. Першы звязаны з тым, што менавіта ў гэты час пачалі вяртацца на Радзіму беларускія бежанцы. Яны прывезлі з Расіі многа рускіх песень. І вось аднойчы майскім вечарам моладзь сабралася і стала спяваць рускія і беларускія песні. Нечакана з'явіліся два ўзброеныя вінтоўкамі паліцэйскія. Адзін з іх крыкнуў: «Не хачу слухаць бальшавіцкіх песень, тутай ест Жэч посполіта, а не большэвія». Усе мы адчулі сябе так, быццам праглынулі горкую пілюлю.

Другі эпізод здарыўся пасля падпісання Рыжскага дагавора паміж Расіяй і Польшчай. Польскія ваенныя часці сталі вяртацца з фронта і ўладкоўвацца на кватэры ўнутры краіны, Адна з такіх часцей аказалася ў маёнтку Вілянава, што за чатыры кіламетры ад маёй вёскі Рыдзялі. Аднойчы апоўдні да нас у вёску прыехалі на павозцы два ўзброеныя жаўнеры. Адзін застаўся з канём, а другі стаў бегаць па дварах. У адной удавы ў хляве знайшоў адкормленага кабана. звязаў яго, і ўдваіх жаўнеры пагрузілі яго ў павозку і сталі паварочваць назад. У гэты час з хаты выбегла ўдава, стала крычаць і плакаць, што забралі і нічога не заплацілі. З іншых дамоў таксама выбягаў народ і акружаў павозку. Убачыўшы небяспеку, той, што сядзеў на возе, сцебануў каня і паімчаўся прэч. Другі спрабаваў стрэліць з вінтоўкі. Але не паспеў. Нехта з натоўпу вырваў яе з рук жаўнера, той перапалохаўся і пабег даганяць павозку. Потым мы пагледзелі вінтоўку і ўбачылі, што патрон заклінавала ў затворы. А калі б яна была ў парадку, жаўнер жа страляў бы! Людзі парадаваліся, што ўсё добра скончылася.

Але не тое выйшла. Праз некалькі дзён, позна ўвечары, у Рыдзялі прыйшлі салдаты. Колькі іх было, не ведаю. Людзі потым гаварылі, што яны паставілі кулямёт у канцы вуліцы і сталі бегаць ад хаты да хаты і шукаць мужчын. Іх выводзілі на вуліцу пад аховай. У адной хаце збіралася моладзь і спявала песні. Быў там і я. Раптам мы пачулі нейкі шум, хутка дзверы адчыніліся, і ў хату ўбеглі два салдаты. Яны прымусілі нас падняць рукі ўгору і прыкладамі сталі штурхаць на вуліцу. а там ужо іншыя зганялі ўсіх у гурт на сярэдзіне вуліцы. Я адчуў, што будзе бяда, і, скарыстаўшы цемнату, шмыгануў убок і ўцёк. Астатніх пагналі да солтысавай хаты. Пастроілі ўсіх у адну шарэнгу, і той жаўнер, у якога адабралі вінтоўку, стаў хадзіць і шукаць, хто гэта зрабіў. Пазналі хлопца, збілі да паўсмерці. Астатніх сталі дапытваць, хто крычаў, каб жаўнера білі. І збілі ўсіх. У канцы яны забралі солтыса і яшчэ пяць ці шэсць чалавек і пагналі з сабой ў Вілянава. Астатнія салдаты перш чым пайсці, пачалі грабіць насельніцтва. У нашу хату, дзе тады была адна маці, увайшло двое, сказалі, што нехта страляў з рускай вінтоўкі, і яны яе шукаюць. Маці загадалі ўзяць лямпу і паказаць камору. Адзін, для адводу вачэй, быў побач з маці, пры святле, другі ў цемнаце ў другім куце знайшоў мой новы кажух і боты брата і пабег на вуліцу, крыкнуўшы, што вінтоўкі там няма.

Мы выявілі прапажу толькі на другі дзень. Тады ж сваякі тых, каго пагналі ў Вілянава, пайшлі даведацца пра іх лёс. На шчасце, яны змаглі ўгаварыць афіцэра адпусціць палонных.

Такое было наша жыццё ў Польшчы. Мясцовая польская шляхта называла беларускага мужыка «хамам», а беларускую мову — «хамскай». Нас лічылі людзьмі другога сорту. Гэта ды яшчэ беспрацоўе і крайняя галеча прымусілі мяне ў 1927 годзе пакінуць Радзіму. Жыву ў Канадзе ўжо 62 гады, маю ўнукаў і праўнукаў. Але Радзіму ніколі не забываў. У 1971 годзе я наведаў свае родныя Рыдзялі, гэтую паездку ніколі не забуду. Вельмі парадаваўся, што мой народ стаў поўным гаспадаром на сваёй зямлі, дзякуючы ўз'яднанню заходняй і ўсходняй частак Беларусі. Пра гэтыя памятныя для мяне падзеі напомніла ваша брашура «Вераснёўскі світанак». Вялікае вам дзякуй.

**Рыгор АПЛЕВІЧ.**

Канада.

# САМ УСЁ ПЕРАЖЫЎ

Добры дзень, дарагія сябры!

Нядаўна я прачытаў кніжку Яўгена Турайкевіча «Вераснёўскі світанак», выдадзеную ў «Бібліятэчцы «Голасу Радзімы». Поўнасцю згодны з аўтарам. Я сам перажыў усё, апісанае там. Раней я жыў у вёсцы Мікулічы, якая да 1939 года знаходзілася пад Польшчай.

Наша сям'я налічвала тады дзесяць душ. Мелі чатыры гектары зямлі, якой не хапала, каб пракарміцца, апрануцца. І таму прыходзілася пасвіць каровы ў памешчыкаў. Многія сяляне з нашай і навакольных вёсак выехалі за мяжу ў пошуках лепшай долі.

Да вызвалення Заходняй Беларусі Чырвонай Арміяй мясцовае насельніцтва не магло скончыць больш пяці класаў, яму не дазвалялася займаць пасады ва ўстановах, працаваць на дзяржаўных работах. Калі мы вучыліся ў школах, то нас прымушалі размаўляць на польскай мове, беларуская мова была амаль забыта.

Вядома, нельга было мірыцца з такім становішчам. І, нягледзячы на праследаванні паліцыі і ўлад, нашы сяляне вялі барацьбу за сваё вызваленне. Уступалі, як гэта зрабіў мой бацька, у КПЗБ, стваралі ячэйкі.

Каб весці барацьбу з камуністамі, змагарамі за вызваленне ад панскага прыгнёту, улады прыслалі на жыхарства ў вёскі Жука, Паграбы, Рагачы, Чаромха і іншыя асаднікаў з Польшчы. Але некаторыя з іх аказаліся добрымі людзьмі, таксама жылі бедна.

З вялікай радасцю сустрэлі мы верасень 1939 года. Калі ў нашы мясціны прыйшла Чырвоная Армія, мужчыны Мікуліч пабудавалі ў гонар яе браму, пелі песні, усім было весела, сустракалі нашых вызваліцеляў усім, што было, неслі апошні кавалак хлеба. Сяляне атрымалі ад Савецкай улады зямлю. Шкада толькі, што шчасце было непрацяглым: пачалася Вялікая Айчынная вайна. А пасля разгрому фашыстаў у нашай мясцовасці лютавалі банды.

Зараз мне 62 гады. Жыву ў Польшчы. Наведваю родную Беларусь, сваякоў у Брэсце, Кобрыне, іншых мясцінах. Вось і сёлета ў маі прыязджаў у Мінск да знаёмай Святланы Ермаковай. Прынялі мяне тут добра. Спадабаўся сам горад — прыгожы, светлы, дзе чыста і парадак. Перад ад'ездам дамоў мне ўдалося сустрэцца з насільшчыкам-палякам. Я пацікавіўся ў яго, ці жадае ён выехаць у Польшчу. Мой субяседнік адказаў, што не жадае, бо жыве ў Беларусі добра, сярод спагадлівых і прыязных людзей.

Чаму я гэта падкрэсліваю? А вось чаму.

Цяпер у Польшчы знаходзяцца людзі, якія абвінавачваюць Савецкую ўладу, саміх беларусаў ва ўсіх грахах. Гэта і павышэнне падаткаў, і зніжэнне жыццёвага ўзроўню ў Польшчы. Нібыта Савецкая ўлада мучыла і катавала палякаў у Катыні, Казельску, Калетах, Сувалках і... Курапатах. Што і цяпер здзекуецца з тых палякаў, якія воляй лёсу засталіся і жывуць у СССР.

Але яны забываюць і не жадаюць успамінаць здзекі над Сяргеем Прытыцкім, беларусамі-камуністамі ў Брэсце, Картуз-Бярозе і іншых мясцінах. Тут загінула нямала і саміх палякаў. Не жадаюць успамінаць, як улады буржуазнай Польшчы да трыццаць дзевятага года трымалі ў галечы наш народ, не лічылі беларусаў за людзей. Раіў бы такім «барацьбітам» за справядлівасць звярнуцца да гісторыі.

Крыкуны і розныя дэмагогі заўжды былі і будуць. Справа ў іншым. Не яны, як кажуць, робяць пагоду. Савецкі і польскі народы здольныя самі разабрацца, што і як было, будуць і надалей умацоўваць дружбу паміж сабой.

У заключэнне хачу падзякаваць вам за «Голас Радзімы». У газеце нямала цікавых матэрыялаў на самыя розныя тэмы. Вельмі хацеў бы атрымліваць «Голас Радзімы» і надалей.

**З павагай**
**Міхаіл ТАКАЮК.**

Польшча.

**...Чарговая кніжка з «Бібліятэчкі газеты «Голас Радзімы» пабачыла свет. Ці ўдалася яна, ці спадабалася, ці выклікала ў нашага чытача задаволенасць, а, можа, і нязгоду! Вось чаму заўжды супрацоўнікі рэдакцыі з хваляваннем і нецярплівасцю чакаюць на сваё выданне водгукаў. Яны, нібыта той барометр, што прадказвае надвор'е, даюць адказы на нашы пытанні, дазваляюць адчуць атмасферу чытацкай аўдыторыі.**

**Сёлета, мабыць, найбольшую колькасць водгукаў атрымала рэдакцыя на кніжку Яўгена Турайкевіча «Вераснёўскі світанак». (Пакуль што, бо «Чары даўніны» і «Святло для людзей» яшчэ не дайшлі да чытача). І тут ёсць свая заканамернасць. Кніжка напісана да юбілею—50-годдзя ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. Тэма, змест выдання вельмі блізкія нашым суайчыннікам. Тысячы жыхароў Заходняй Беларусі пакінулі Радзіму. Адны ратаваліся ад праследаванняў рэжыму панскай Польшчы, другія шукалі заможнае жыццё за мяжой, паехалі зарабіць гро[…] Але многія так і не вярнуліся. Ім яш[…]мніцца тая вёска з саламянай страхой, ім яшчэ сніцца па начах тая палоска зямлі, на якой гаравалі і жылі без надзеі.**

**Прачытаўшы «Вераснёўскі світанак», нашы суайчыннікі даслалі лісты ў рэдакцыю. Яны нібы дапоўнілі змест згаданай кніжкі. Напісалі, што […] зведалі зняваґу, прайшлі польскія турм[…]арабкавалі на чужой зямлі—не мелі сваёй. «І толькі не змаглі стаць удзельнікамі будаўніцтва новага жыцця на Радзіме—так распарадзіўся лёс, — піша ў рэдакцыю суайчыннік з Канады Міцкевіч. — Нават не верылі, што так можна жыць, як жывуць сёння ў тых самых вёсках Заходняй Беларусі».**

**Міцкевічу яшчэ пашанцавала. Хоць і стары ўжо, але змог прыехаць да сваякоў на Брэстчыну, сам пераканаўся, што дала людзям Савецкая ўлада. А вось нехта Гірыс даслаў ліст, таксама з Канады, і не хоча верыць аўтару «Вераснёўскага світанка». Сцвярджае, што ў вёскі Навагрудчыны не можа хадзіць аўтобус і не гараць там электрычныя лямпачкі — «да гэтага яшчэ мая старонка не дайшла».**

**Дайшла, паважаны Гірыс. І ў лапцях не ходзім, і булён непадсквараны есці не будзем. Вядома, маглі б жыць і яшчэ лепей. Не абышлося і без памылак у развіцці нашай гаспадаркі. Ведаем таксама, хто вінаваты ў гэтым. Але перабудова, курс на якую ўзяты нашай краінай, дапаможа пазбавіцца хібаў. У гэта цвёрда верыць савецкі народ.**

**Не адзін Гірыс пр[…] мліваецца негатыўных поглядаў на жыццё ў СССР. Узяць таго ж, як ён падпісаўся, В. Старога. І ён гатовы спрачацца з аўтарам калі не ва ўсім, то з многім. Пераконваць нашага земляка, палічылі мы, не мае сэнсу. Яго пісьмо вырашылі даць амаль поўнасцю. Няхай ужо іншыя нашы суайчы[…] выкажуць свае думкі наконт «праўды […] няпраўды», фактаў, прыведзеных у кніжцы «Вераснёўскі світанак». Так што будзем чакаць яшчэ водгукаў.**

# ПРАЎДА ЦІ НЯПРАЎДА?

Мушу прызнацца, што, апрача нясмаку, «Вераснёўскі світанак» не зрабіў на мяне ніякага ўражання. Усё тая ж казённая сталінска-брэжнеўская барабаншчына, так што няма сэнсу ўваходзіць у дэталі. Але, што да прадмовы да гэтага твору, якая выйшла ўжо асабіста ад вас, дык не магу ўстрымацца, каб хоць крыху не адказаць на яе. Трэба прызнацца, што і я асабіста спатыкаў Чырвоную Армію з нейкай радасцю і ў падвышаным настроі, хоць і не будаваў для яе трыумфальных брамаў ды не падносіў хлеба з соллю. На гэта, што праўда, не хапала часу, бо жыў амаль на самай граніцы і гоман на вуліцы падняў мяне з пасцелі. Але вельмі хутка мая, ды ці толькі мая, радасць замянілася ў сум і нават жах, калі мы пабачылі сапраўднае аблічча «вызвольнікаў», а гэтае аблічча вы павінны ведаць. Дык вось Заходняя Беларусь яшчэ і сёння памятае не толькі «вераснёўскі світанак», але таксама і «лютаўскі» (14 лютага 1940 года), калі ў траскучы мароз і ў завею да чыгуначных станцый пацягнуліся даўжэзныя абозы сялянскіх фурманак з малымі дзецьмі, жанчынамі, старымі і нават абложна хворымі людзьмі, якіх везлі будаваць шчаслівую і светлую будучыню ў Котласе... Далей, вы пішаце аб польскім акупацыйным рэжыме «на крэсах». Трэба згадзіцца, што частка з гэтага ёсць праўдай. Але які рэжым у тым жа часе быў у БССР? Ці там сапраўды будаваўся «беларускі дом», аб чым так бессаромна трубіла вашая прапаганда? А што казаць аб гаспадарцы і эканоміцы на «нацыянальнай аснове»? Гэтую гаспадарку і эканоміку вашыя «вялікія і мудрыя айцы і правадыры» давялі да таго, што тэхніку трэба здабываць на Заходзе, сеяць на Украіне і цаліне, а жаць у Канадзе і ЗША. Нават мову за некалькі дзесяткаў год патрапілі загубіць так, што цяпер ужо на беларускай зямельцы і ў беларускіх установах вельмі часта чуюцца заўвагі: «Говорите же вы по-чэловечэски». Ёсць праўдай, што ў Заходняй Беларусі былі да немагчымасці вузкія ніўкі, але там ніхто не выдзяляў з ласкі яшчэ нейкіх «сотак», за якія вызначаліся абавязковыя пастаўкі мяса, малака і яек. А чым гразіла невыкананне гэтых паставак, вы самі добра ведаеце. Ёсць, праўдай, што ў Заходняй Беларусі было беспрацоўе і людзі шукалі выхаду з яго ў эміграцыі. Але зноў жа, на эміграцыю ніхто не выпраўляў сілком, у замкнутых вагонах і пад аховай узброенай варты. Але з эміграцыі яшчэ была надзея вярнуцца і ўсталяваць такое-сякое жыццё на зарobленыя крывавымі мазалямі грошы. А ці шмат вярнулася да родных парогаў з розных Котласаў ці іншых Казахстанаў?

Далей вы пішаце аб тым, што нібы суайчыннікі, якія сёння наведваюць Радзіму, кажуць, што яны ніколі не пакінулі б яе, каб там было сённяшняе жыццё. А вось цікава ведаць, колькі б іх засталося там, каб праз увесь гэты час граніца не была «на замку», а месцамі яшчэ і за калючым дротам?

**В. СТАРЫ.**

ЗША.

